Дый есьціка-ж гатовая вялікая расійская культура каторую павінна Беларусь прыняць с падзякаю.» А калі усе гэтыя «дабітнасьці» ні маглі перакапаць зьезд,—маніліся яго сарваць. Але зьезд атаку адбіў і... паказаў дарогу ворагам. Мсьціліся потым яны, сабіраючы паветовыя і губэрскія зьезды вучыцялёў і селян, і такім чынам намагаліся запыніць ход беларускаго руху.

На зьездзі, посьля гэтай буры, пачалася спакойная творчая праца. Зьезд, падзяліўшыся на сэкцыі, выпрацаваў даклады, пастанавіў рэзалюцыю і зрабіў выбары у «Беларускі Нацыянальны Камітэт», у склад катораго увайшло 13-ць членаў з «Беларускай Соцыялістычнай Грамады», пяць—рожных праконаннях,—усіх-жа разам-18 чалавек.

У выканаўчы орган Камітэту былі выбраны мейсцовыя людзі-мінчане—с п. Р. Скірмунтам на чале. Пасылалася дэлегацыя у Петраград да Часоваго ураду для прадстаўлення патрэб і дамаганяну Беларускаго народу. Расійскі Урад дэлегатаў прыняў, шмат чаго абяцаў, але нічога потым рэяльнаго ні зрабіў і тым паказаў, што ні толькі цар, але і сам народ вялікарускі хацеў самадзержаўна панаваць над другімі нідзяржаўнымі народамі Расіі.

Ход жыцця прымусіў п. Скірмунта падаццa да дымісіі. Беларускі рух рос і пашыраўся; заварушылася вёска, загаманілі салдаты на фронтах. Скірмунт, як вялікі земляўласьнік, ні мог заставацца на чале кіраўніцтва беларускім нацыянальным рухам. 8-10-го ліпня адбыўся у Мінску Зьезд дэлегатаў ад беларускіх партыйных і грамадзянскіх арганізацый. На гэтым зьездзі была выбрана т. з. «Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый», каторая склікала на 5-е жніўня новы зьезд, апавесьціўшы усе вядомыя арганізацыі адозваю: «Да усіх сьвядомых беларусаў.»

Цэнтральную Раду зьмяніла Вялікая Беларуская Рада,-глаўнай заслугай каторай трэба лічыць скліканне 1-го Усебеларускаго Зьезду.

**Л. В.—Д.**



**Наум Прыгаворка.**

*(Вінцук Дунін-Марцінкевіч).*

# Залёты.

## *Сьмяхотная штука у 3-х дзеях.*

(Напісана у Люцынцэ 8-го сьнежня 1870 году).

**АСОБЫ:**

Ян Пачціускі, маршалак.
Аляксандра Сакальніцкі, судзьдзя.
Адэля, яго дачка, 16-ці гадоу.
Адольф, сын Сакальніцкаго, 12-ці гадоу.
Станіслау Зацнеускі, малады памешчык.
Антон Сабковіч, арэндатар
Даміцэля, яго сястра.
Пятрук, парабак.
Гапон Барычка, селянін.
Акуліна, яго жонка.
Марыся, іх дачка.
Мордка, жыд, стаhяр.
Ключвойт.

Першая дзея адбываецца у кватэры Сабковіча, другая—у лесі перад сялібай Барычкі, трэцяя—у доме Сакальніцкаго.

## Дзея першая.

### Зьява І-ая.

(*Сабковіч—Даміцэля*).

[Сцэна прэдстауляе нівялічкі пакой, у каторым направа—два вокны, на лева і прост—дзьверы. З левай стараны—стол, на каторым Даміцэля прасуе (гладзіць) хустачку для брата. Сабковіч зусім ужо апрануты і толькі без фрака, каторы вісіць на крэсьлі,—пакручываецца і узіраецца у туалетовае люстэрко, а пасьля бразгае грашыма у кішані і сьпевае:]

Сабковіч.

Маю грошы, маю я:
Мне ніхто тут ні раўня.
Прад маей машонкай поунай
Гнецца роуны і ні роуны.
Як гаяну скацішу у лес,
Кожны чуць ні с фігай лез,
А як стау багат сягоння,
Бьюць паклон мне па паклоне.
Ці дауно там ясны пан
Дууся, як парожны жбан,—
Знай, як лькая, частуе,—
Цяпер лашчыцца, цалуе.
І паненкі, ці дауно,
Усе сьмяяліся у вадно,—
Сення, бач, глядзяць мілютка,
Бразну-дзын,-зьбягуцца хутка.
Пісар, войт, ці аканом
Называлі балваном,—
Як пачулі толькі грошы,
То знайшлі й розум харошы.
Хто маю хацінку знау?—
Сьлед к ей зеллем зарастау;
Сенні-ж повен і дзядзінец,
А усе сьцежкі—як гасьцінец.

(*Гаворыць*)

Дык што-ж... ці-ж я ні прыгожы хлапец? (Круціцца па пакоі). Паузірайся, сястрыца... Цяперака, як прычаплю поупэруку, мая Адэльця напэуна з радасьцю пойдзе за мяне... дык што-ж...

Даміцэля. Ці ні пасьпяшыуся, мой даражэнькі, называць яе сваею,—ні будзь такім пэуным, каб ні ашукацца...

Сабковіч. Дык што-ж... або-ж я ні маю грошай?..

Даміцэля. Мне здаецца, з дзяучынай добраго роду і багатай на усе, трэба мець яшчэ нешта, апроч грошай.

Сабковіч. Цікавасьць! Дык што-ж... чаго-ж гэта яшчэ патрэба?

Даміцэля. Перш-на-перш, мой даражэнькі, кавалер, што залецаецца да паненкі, павінен быць таго самаго стану, як і яна:—калі-ж ен з ніжэйшаго стану, то павінен прынамсі мець славу вучонаго і разумнаго,—інакш той стан, да каторага належыць паненка, будзе крычаць, што гэта мэзальянс і адгаворыць ні толькі бацькоу, але і паненку, калі-б ты нават ей і падабауся. Другое,—трэба каб кавалер быу адукаваны, калі ні лепш за паненку, дык і ні горш, гэта дзеля таго, каб ей ні было сорамна за свайго мужа. Трэцяе і самае важнае,—каб той, што залецаецца, меу добрую славу у людзей;—а ты, мой брацейка, даруй што прауду скажу, ні можаш пахваліцца ні першым, ні другім, ні трэцім.

Сабковіч. Дык што-ж... цікавасьць... Адным словам разабью усе твае наймудрэйшыя довады: маю грошы,—а грошы цяперака для усіх станау патта ласая рэч.

(*Стукаючы па кішані, пяе*):

Грошы усім кусочак ласы,
Хоць хто мае іх даволі,
Усе-ж к ім прэ, як да каубасы,
Калі убача у каго болей.

Вось ліхвяр, што кублы мае
Поуны золатам набіты,
Блізкіх, дальных абірае,
Век працэнтамі ні сыты.

А паны ясьне-вяльможны,
Хоць дабра, зямлі шмат маюць,
Так жывуць ніасьцярожна:
У ліхвяроу дапазычаюць.

Ксендз, поп, рабін, хоць [набожны,
Усе у здарэнню гэтым роуны:
Любіць золата з іх кожны,
Гоне у стан яно духоуны.

Любяць золата і судзьдзі:
Як хто у іхні улезе краты,
Хай ні дасьць—віноуным будзе,
А як дасьць—ні вінаваты.

Ліхварамі судзьдзі нашы
І паны, і стан духоуны,
І дзеучат дукат ні страшa:
Любяць золата усе роуны.

(*Гаворыць*).

Дык што-ж...

Даміцэля. Прауда. У цяперашніх цяжкіх часах шмат паненак, заплюшчыушы вочы, пайшло бы за багацеем, але шчасьця і дабра ад гэтаго німа чаго і спадзевацца: усе жыцце ваша атруцілося-бы сваркамі ды калатнёй. Панна Адэля ні такая. Каб меу нават багацце Крэза, і тады-б яе да сябе ні прынадзіу; яна шукае чагосьці іншаго, большаго за золата.

Сабковіч. Цікавасьць!.. чаго-ж гэта?..

Даміцэля. Я табе ужо казала аб гэтым і магу у не-

кальѣіх словах сказаць ятчэ раз: добрай славы у людзей, навукі, адукацыі і полеру, дзякуючы каторым ты ні сароміу-бы таго стану, да каторага яна належыць.

Сабковіч. Э! пляцеш, мая даражэнькая. Дык што-ж... Каб я ні меу розуму, то і грошай ні сабрау-бы. Што датыча якогасьці тамака полеру, каторага быццам, як ты кажаш, мне бракуе,—яго старчыць для мяне: усюдых патраплю вясьці сябе ні горш за якога лішне разумнаго с пустымі кішэнямі, —дык што-ж... Ось, напрыклад, шумна уходжу да панскай салі, поунай гасьцей, дык што-ж... прыбліжаюся да пані-гаспадыні, трымаючы левую руку у кішані, а правую, як-бы ні хочучы, цісну ей ручку так—па панску і кажу праз нос: коман ва, як здароуечко, як ідзе гаспадарка, і так далей,—цікавасьць... Дык што-ж... пасьля падыходжу да гаспадара, с каторым, як роуны з роуным, цалуюся:—далей, усунуушы ужо абедзьве рукі у кішэні, і як-бы ні хочучы, бразгаю сумысьля усыпаным туды золатам, навокал з гары узіраюся і с павагаю... дык што-ж... ківаю галавою адным ніжэй, другім меньш нізка—паводля багацця і становішча іх, дык што-ж... Потым іду да паненак і, як-бы нінарокам, кідаю залатую манэту на зямлю, і раблю гэта ведама тады, калі блізка, дык што-ж... лькай круціцца, ен падбегшы падыймае грошы і хоча мне аддаць,—тады я спакойна, арыстократычна кажу: «пакінь гэта сабе даражэнькі», і... дык што-ж.... Як-бы нічога ні было, пачынаю с паненкамі... дык што-ж... жартаваць, бразгаючы усе золатам у кішэнях: вяду гутарку а пагодзе, апратках, хлапцох, ці аб нечым падобным, дык што-ж... А! а! ці ты ведаеш, сястрыца, што я ужо і контрраданса умею скакаць... Дрыгальскі мяне крыху падмуштравау:—толькі другая хвігура неяк нідобра ідзе. Паглядзі, мая даражэнькая, шакжаж ты шмат бачыла скокау, дык што... дык можаш па праудзі асудзіць...

(*пачынае скакаць і пяе*)

Дуэт.

Сабковіч. Тра-ля-ля-ля, тра-ля-ля-ля!—
Стань ля боку, угледзься здаля
Да паставы да натуры.

Даміцэля. Чысты мех з мядзьвежай скуры.

Сабковіч. Дык што-ж... Суд крыху застрогі,
Глянь! Як поузам ходзяць ногі,
Стан схілісты і павабны...

Даміцэля. Ах, якіж ты увесь нізграбны!

*Сабковіч і Даміцэля* (разам)

Перабіра ты сярдзіта,
Кпіш без літасьці і квіта;
Мяне знаюць ні такія,
Так скачу, як і другія.
Ні да скокау ты сужоны,
Да сахі і да бароны:
Ногі крывы, як кавелы,
Значна, што з Смаргонскай школы.

(Скачучы, прыбліжаецца да дзьвярэй, што знаходзяцца прост сцэны і, штурнуушыся аб парабка Пятрука, што у гэты момант уходзіць, падае на зямлю).

**Зьява 2-ая.**

(*Тыя самыя і Пятрук парабок.*)

Сабковіч. Вось уцяу! аж цемна у воку;
Ах, чорт лысы ды шалены!—
Стой тут. З месца ані кроку!

Пятрук. (*скрабучы галаву, нізка кланяецца.*)
Нехай будзе пахвалены!

Сабковіч. (*устаючы*)
Ехаць меуся у важны госьці,—
Гад зьвіхнуу нагу у косьці.
На манеры мо' быць страта.

Даміцэля. Раджу, лепш пільнуйся хаты.

(*Трое разам:*)

Сабковіч. Дык ні веру у прачуванне,
З паваротам жджы шчаслівым:
Веру у мілачкі каханне,
Бо усе з іх к рублям жычлівы.

Даміцэля. Ні вер золату, васпане,
Паварот мо' быць сьлязьлівы;
Той кахання ні дастане,
Хто адно глядзіць нажывы.

Пятрук. Дауно нас скацінку у полю,
А цяпер пан над панамі.
Дай свіні рог, дурным—волю,
Сьвет павернуць у верх нагамі.

Сабковіч. (*кажа.*) Што, мядзьвяжопак!—Цісправіуся інтарэсам, за каторым я цябе пасылау?

Пятрук. Кепска, паночак. Сказалі там у. . . . . . што гэга ні чысты інтарас.

Сабковіч. Дурны! Колькі разоу казау я табе, каб ты, адказываючы, казау на мяне—ясны пане.

Пятрук. Эт пано... хацеу сказаць: ясны пане:—я чалавек бывалы, зубы зьеу на дворнай службе,—і па Вільні ні раз цягауся; отож часта мне здаралася памеж шляхты чуць гутарку, што—ясьне згасьне, а васпане—застане.

Сабковіч. Дык што.. дык ты і у Вільні быу.—Штож ты тамака бачыу цікавага... дык што... сьмешны ты с сваей гутаркай

Пятрук. Што пано... хацеу сказаць: ясны пане... гаварыць німашака нічога цікаваго. Палацы амаль усе каменныя, вуліцы так вузкі, што нельга разміпуцца: як супуцца дзьве хвурманкі, то хоць ты калом іх разнімай—вось як часам пан чаго загневаецца да зубы сашчэміць, так і яны с сабой сплятуцца. Людзі бегаюць, як падстрэляныя, адзін другога штурхае... Мауляу бы хто, што яны за пільнай сьпешаць работай, а яны так, з дуру толькі с кута у кут летаюць, да зубы скаляць. Прауда, бачыу я адно дзіво цікавае, бачыу, як французы муштруюцца:—эт! да і то,—як прыпомніу маладзенькі мае леты—мярам як то калісь старэнькі дзядок мой, дай Бог яму крулеуство нябеснае, каторы па ту пару, як я быу дзяцем, перакінууся ужо за сотню гадоу: бывала веу разказы на зімовых вечарніцах, то і гэта іх муштраванне выдалося мне кепствам.

Сабковіч. Дык што .. штож вам дзядок твой разказвау?—

Пятрук. Э!.. э!.. э! па... Ясны пане,—як засядзе, бывала, пры лучыне лапці плясьці, а пачне вясьці с прэпрашэнням яснаго пана, разказы, то мы усе, бывала, як тыя зайчыкі, калі часам пачуюць якісь шорах каля лугавіска, і вушы паставім, да і зубы вышчэрым, мярам як наш курта, калі угледзіць жыда:—так цікава бывала вядзе разказы. Баш, ен быу ні тутэйшы, а захожы із пад Кіява: так вось распрауляе, бывала: якое было у іх войско, аж міла слухаць. Бывала стары як раздабрухаецца, а прыпомніць старыну, так вось кажа: гэй!.. гэй!.. брацікі, німашака на сьвеці, як то калісь, слаупай памяці, за гатманшчыны! Як баш—войско пачнае сабярэцца у кучу. Ні знало яно што то—«стой» і «ні шавяліся.» Бывала, пры Хмельніцкам атамане стоуціцца пад ясным украінскім небам сіла казацкая—палкі Чэрнаморскі, Палтаускі, Гуманскі, Граняускі, Пятыгорскі і Каняускі. Казакі у шапках сівых с красным галавіцамі—вось мак, цьвятуць. Урадніні на коніках фіньцяць, сотнікі вусікі круцяць, а ассаулы губы дуюць. Так бывала мудра разказуе, што і сьцяміцца ні змога.

Сабковіч. Ну, дык што... а у Вільні што ты бачыу?—

Пятрук. Эт!.. што бачыу, то ні было чаму дзівіцца. Муштраваліся, здаецца, і дружна: вось арэх згрыз, да куды ім... Прауда, яны паубіраушыся, як дзедавы казакі, у шпанцырках, але на што ім папрышывалі хвосьцікі с чырвонымі беражкамі—мярам у шчыглікау? Чэраз плечы перавешаны у

дацъ заграбленае у кажухох,—тады ні аддавай быдла, пакуль ні пакінуць іх быцам у заставу. А кажухі, папаушы у нашы рукі, так і застануцца,—гэта ужо мая справа, дык што...

Пятрук. Па... Цьфу табе! Ясны пане! Яны ж ні на на нашай да на сваей пасуць сенажаці. Каб хоць адна штука перайшла граніцу, а то усе быдлэ ходзіць на Лубінскай.

Сабковіч. Дурны!... дык што... зайдзіце ззаду Лубінскім лесам і займіце, а калі-б хацелі прашкодзіць, дык пастухом задайце чосу, дык што.. тамака пасуць малыя дзеці і ні патрапяць вам перашкодзіць: будзе вам шмат клопату—угледзіушы вас уцякуць.

Пятрук. Ці гэта будзе па—панску? Ці прыгожа цягаца да чужога дабра...

Сабковіч. Хоць ні прыгожа, але складна дастанем сабе за дарма колькі кажухоу.

Пятрук. Кажуць старыя людзі,што чужое дабро ні грэе.

Сабковіч. Супакойся! Каб толькі мягкае ды з воуны, а напэуна грэць будзе.

Пятрук. Які цяпер сьвет настау, мой Божэ мілы. Як паны пачалі браць вельмі на розум да сьляпіць разумныя ксенжкі, то горш ад віхрышчоных сталі круціць ды муціць.

(*пяе*):

Верх дном паставілі сьвет гэты.
Ні так было у дауны леты,
Як пачалі хітраваць, мудрыці,
То з дуру сталі усе круціці.

Дауней усяк Бога баяуся,
Дабра чужога, бач, чурауся,—
Цяпер стараюцца панята,
Калі-б пакрыудзіць свайго брата.

А гдзе-ж сумленне —баязьнь (Божа.
Быцце такое з разбоям схожа.
Пакіньце цнотай шахраваці,
Панкі, лепш станьце працаваці.

Пры працы мысьль людзка сва- (бодна,
Бо праца Госпаду угодна.
Шавец, што шылам зарабляе,
Спакойнае сумленне мае.

Сабковіч. Што гэта?.. Ты смееш павучаць мяне!..

Пятрук. Папочак... цьфу ты пропасьць!—хацеу сказаць—ясны пане—тож ведама стара гутарка: хлеб еш, прауду рэж.

Сабковіч. Дык я табе пакажу гутарку, дык што... ідзі і рабі тое, што кажу, інакш дастанеш кіем.

Пятрук. Нечаго казаць, на чыем вазку едзеш, таму і песенькі сьпевай. Пайду грабіць быдло, але што будзе посьля...

Сабковіч. Дык што... ні твая беда, ідзі!

(*Пятрук пайшоу*).

### Зьява IV-я.

*Сабковіч* (*адзін*).

Сабковіч. Усе кажуць, што я жыву людзкою крыудай,—дурні. Ось у тым і розум, гэта і штука, каб умець выкарыстаць абмылкі і нікемкасьць другіх. А сумленне? (*думае*) глупство сумленне.

Дзе ні кінь ад краю к краю
Будзь сумленным-кожны бае.
Ну, і усе брахня на сьвеце—
У губе-цнота, у сэрцы-сьмеце.
Вось багач гавора з вамі,
Усіх багаціць ен славамі,
А туж з боку як ні знае,
Што хтось з голаду канае.
Ваякі адвагу маюць,
Сябе самі выслауляюць
А як прыдзе да трывогі.
Дык ва уцекі,—дай Бог ногі.
Ксендз. ці бацюшка вялебны
Вучыць: грошы ні патрэбны,
А у хрысьціны ці у хаутуры
Самі ласы к братняй скуры.
Шэнча «Война наш» дэвотка,
Для сірот пры ей работка,
Спаведаецца са скрухай,
А усіх чэрне усім на вухо.
Маладзіцу вам пакажуць.—
Жонка верная—усе скажуць.
Мужу міласьць прысягае,
А хлапцам так і міргае.
Глянь,—дзіце яшчэ дзяучына,
Быцам жартау, хоць нявінных,
Ані знае, ані чуе,
А у кутку хлапцоу цалуе.
Грэх вылазе у хлопца з міны,
А удаецца за дзяучыны.
Аб каханні байкі бае,
Аб пасагу-ж толькі дбае.
Гэтак наша пакаленне.
Нібы хваліцца сумленнем,
Хоць таго ужо астаткі
Уцяклі дауно да Вяткі.

(*кажа*):

Дык што... дурны той, хто гоніцца за сумленнем, калі яно пакінуло нас і уцякло на край сьвету. Дык што... Золато—гэта усе. Хто мае яго, той патрапіць навят перацягнуць на сваю старану сумленне... Але час ужо ехаць да маей найдаражэйшай. (*прычэпляе поупэруку на галаве*). Дык што... Сенека нарэшце канец, выясьніцца мая справа. Пры такіх ле дастатках, асабліва матэрыяльных, я, напэуна. буду шчасьлівым з ею. Па праудзі, па што мне здауся яе насаг? Але усеж табі дзесяць тысячак—гэта грошы і ніколі ні зашкодзіць павялічыць імі тое, што я сабрау. (*хоча ісьці ужо*) Але што гэта тамака зноу за гоман? Сенека мяне замучаць начыста уселякімі справамі. (*сеу*).

### Зьява V-я.

*Сабковіч і Мордка* (*сталяр*)

Мордка. (*кланяючыся*) Добрый дзень пану,—ны! А што будзе з намі?..

Сабковіч. Дык што... што мае быць? Пачынай строіць сьвіран,а тады адтрымаеш свой задатак і за работу—дык што...

Мордка. Хас ду гегэрт,—цікавасьць! Якжа строіць. калі пан пры угаворы патрэбавау цаго інсаго, а цяперака, калі я, дзеля пэунасьці, каб каго іншаго ні узяу да працы, дау сэсьць рублеу задатак, пан ставіць мне куды цязэйсыя варункі. Ны агроуль—гэтакім парадкам я і да паловы работа даедзе, апраем усе, колькі уладарыуся.

Сабковіч. Гэта ужо твае дзело; прападуць шэсьць рублеу, калі ні возьмішся за работу—дык што...

Мордка. Ны!.. цікавасьць,.. Якжа да яе браца, калі мне будзе вялікая крыуда.

Сабковіч. Задатак твой прападзе, а я вазьму другога майстра, дык што...

Мордка. Гівалт! Сакзэс мовы ні было аб такой работа, якая пан цяперака мне дае...

Сабковіч. А ці маеш, пархуць, пісаны угавор?

Мордка. Ны!.. на сто ен, для якога глупства, ці ні досі панскае слова,—а гроуль.

Сабковіч. Дык што... слово—вецер, а распіска гэта грунт, мой даражэнькі; дурань верыць на слово, а разумны карыстае с таго, дык што... Ось я ужо трэццяго такога ашукау і зарабіу гэткім парадкам дваццаць рублеу. Яшчэ злаулю так са двух і свіран мне нічога ні будзе стоіць.

Мордка. А ці гэта будзе па панску—беднаго майстроу асуківаць.—хас ду гегэрт.

Сабковіч. Досі ужо, мой даражэнькі, шахраваць вашаму брату, цяперака на нас прыйшоу чарод двойчы адплаціць вам,—дык што.

Мордка. (*сьціхаючы*) Цікавасьць, да цаго дайсло! (*зноу цмокае*) мусіць хутка будзе канец сьвету.

(*пяе*):

Ляхтірыді—бам!
Ляхтірыді—бум!
Ляхтірыді—ліхтірыді
Бім—бам—бум...
Уй! хапун сьвет гэты схопе,
Мэсыяша ні далека,
Калі пан жыдка так кропе.
Акпіванствам с пірад, з бока.
Меу калісь пан «гунур слова»
Сенні ужо грызмоль цыдулі,
Ды у суд даушы рыхт па нова,
Мах глыбока ві шкатулі.
Ляхтірыді—бам.
Ляхтірыді—бум.
Ляхтірыді—ліхтірыді
Бім—бам—бум.
Ны, ні толькі слова схваце,
Але горс ясцэ падладзе,
І пімалу ні спазнаці
Ад зыдка цыдулю украдзе.
Ай вэй! Сто за гандэль гэткі,
Калі так змудрэлі паны,
Хіба гэхэр, кіндэр—дзеткі
Гоц да земляу абецаны.
Ляхтірыді—бам.
Ляхтірыді—бум.
Ляхтірыді—ліхтірыді
Бім—бам—бум.

(*кажа*):

Ны!.. сто за будзе?..

Сабковіч. Дык што.. што будзе? Ось, калі ні возьмешся за работу, твае шэсьць рублеу фарфал, дык што...

Мордка. (*энэргічна*) Хай гэта мая убогая і крывавая праца застанецца пану на хаутуры. Будзь пан здароу! (*пайшоу*).

Сабковіч. (*у сьлед за ім*) Ах, ты шахрай! пархаты жыд!.. Ен яшчэ клясьці мяне будзе!.. дык што... Але чагож я злую?.. Трэба быць справядлівым, хай гэты бедак пацешыцца за свае грошы хоць кляцьбой,—дык што... А цяперака у дарогу. Гэй! есьць тамака хто?

(Далей будзе).

---

## У гадаушчыну Рэвалюцыі.

### (28 II 1917—28 II 1918 г.).

Грыміць марсэльеза. І моро галоў
І моро бліскучых вачэй.
Штандары ад фарбаў багатых мігцяць,
Красуюць ярчэй і ярчэй.
Дэвізы на іх серабром адліваюць
І золатам пышным мелькаюць.
На мовах на розных аб Волі сьвятой,
Аб дзіўным аб заўтрашнім дне
Гаворуць-гамонюць. Ні веруць сабе.
І людзі, як быццам, у сьне.
Гэй, Воля пануе на белым на сьвеце,
Аб Волі пяюць нават дзеці.
І чуюцца рытмы у гулкіх шагох:
Бы хвалі, плывуць уперод
Старыя-малыя, бо сьвято усім:
Народы—у вялікі народ.
Грамадай куюць агнецьветную долю.
Усім адзін Бог—гэта Воля!
Ідуць і лікуюць. Бы рынууся бор.
Рвануўся. Ідзець у прастор...
Шыбае пад сонцам па грудзях зямлі,
Шыбае пад небо да зор.
Усе уваскросьлі.падняліся з нетраў,
Ім гімны зьвіняць у паветры.
Іх шэствіе пышно. Усе сэрцы—адно:
Цярпелі усе пад ярмом.
І полымем душы палаюць. гарачь.
Іх сіла вяліка, як гром.
«Ой, шмат чаго зробюць людзкія грамады,
Народныя вечы і рады!»
І вось да трыбуны чырвонай прышлі,
Зрабілась вялікая ціш.
Юнак на трыбуне. Глядзіць увакруг.
«Чаго ты, прарочэ, маўчыш?
Скажы ты, як збыцца нам цяжкаго гора?
Народаў чакае тут моро...»

---

Прамоўна гавора. І голас, як сталь.
І словы—агнёвы каскад.
Ен сэрцо палоніць, чаруе душу.
І слухае кожны і рад.
Упартая думка,—дамаскавы мечы,—
Тыранаў паганых калеча.
Сын гора-нядолі. сын голаду-мук,
Сын дзікіх лясоў і палеў.
Сын цёмных падвалаў, сын бедных бацькоў,
Сын гідкіх, цяжкіх кандалоў
Адважна гавора крылатае слово
Аб муках народа—Іова.
І помста, атрута балючай душы
Глыбока у душы ляціць:
«За рабство, за зьдзекі мінулых вякоў
Павінны цяпер заплаціць!..»

---

І страшныя словы, бы цёмныя хмары,
Туманюць шматтысячны твары...
Усе вочы маланкай палаюць. гараць—
Ні можна чапаць гэтых масс!
Бо «воко за воко»,—мінулы закон,—
Зноў зробіцца панам у нас...
І процiў свабоды мы зноў заваюем,
Мы самі сябе ні шкадуем.
Лепей асьпрога і міласьць усім,
Ні будзем Хрыста расьпінаць.
Бо мэта пракокаў—ні шкодзіць, ні мьсціць,
Усім Воля—жаданая маць.
Дык кіньце вы помсту, ні робце руінаў,—
Пад біч зноў падставіце сьпіны!

---

Здзічэлыя твары. Ні людзі—зьвяр'ё.
Сваволя пануе увакруг.
Грабуюць і палюць і нішчуць краі.
Народ сабе друг, ці нідруг?
О, Воля, ты толькі, як промень, зірнула,
О, Воля, ты нас абманула...

**Ясакар.**

---

# КРОНІКА.

**Тэлеграма гр. Гэртлінгу ад Беларускаго народнаго Сэкрэтарыата.** Старшыня выканаўчаго комітэта Рады 1-го Усебеларускаго зьезду і часовы старшыня народнаго сэкрэтарыята Беларускай Народнай Рэспублікі адбіу гэрманскаму канцлеру гр. Гэртлінгу гэтакую тэлеграму:

«Выканаўчы комітэт Рады 1-го Усебеларускаго зьезду, як часовы законадаўчы орган, і народны сэкрэтарыят Беларускай Народнай Рэспублікі, азнаёміўшыся з нямецкіх газэт с проэктэм кіраўнічых партый большасьці рэйхстагу і аб уступцы Польшчы беларускіх зямель— гэтым маюць гонар заявіць вам, што падобны акт нарушыў-бы самыя жыццёвыя інтарэсы беларускаго народу і значнай большасьці нацыянальных меншасьцяў Беларусі і было-б палічано народнымі масамі, як цяжкая зьнявага.

Прызнавае цяпер усім культурным мірам право на самаадзначэнне народаў патрэбуе, каб толькі само населенне Беларусі, шляхам вольнаго народнаго галасавання, вырашыло пытанне аб сваей дзяржаўнай прыналежнасьці.

Просім дазволіць нашым дэлегатам нібаўна прыехаць да Бэрліну дзеля працы у вырашэнню пытанняў, датычных беларускіх зямель».

**Адозва Менскаго Беларускаго Прэдстаўніцтва.** Менскае Беларускае Народнае Прэдстаўніцтво кліча усіх верных сыноў Беларусі, каторыя даражаць палітычным, эканамічным і культурным адраджэннем краю, злучыцца каля яго, бо німа другога нацыянальнаго і межпартыйнаго органу, каторы мог бы дабіцца усіх гэтых заданняў.

Менскае Беларускае Прэдстаўніцтво дзеля дасягнення гэтых мэтаў, лічыць патрэбным:

1) Адбудаванне і разьвіцце Беларускай дзяржаўнасьці у граніцах разсялення беларускаго племяні;

2) Урэгуляванне беларуска-літоўскіх дзяржаўна-народных адносін на асновах супольнаго будаўніцтва і зьвязку с Курляндзіей дзеля аднаўлення старых гандлевых дарог да мора;

3) Падтрыманне зьвязку з вялікай цэнтральнай дзяржавай, каторая адна толькі можа забезпечыць народу право на самаадзначэнне;

4) Для паляпшэння быту і здавальнення патрэб селянства—правядзэнне грунтоўнай зямельнай рэформы, каторая-б павялічыла надзелы дробных земляўласьнікаў і дала-б можнасьць надзяліць беззямельных батракоў зямлёю на рахунак вялікіх земляўласьнікаў, зямель скарбовых і другіх.

5) Завясьці зараз-жа, паводлуг магчымасьці, народныя беларускія школы і вучыцяльскія сэмінарыі;

6) Выданне школьных беларускіх падручнікаў, арганізацыя народных беларускіх хат дзеля культуры і прасьветы:

7) Падгатоўчая работа, каб завесьці новае упраўленне краем;

8) Правядзэнне справядлівай і гістарычнай і дзяржаўнай граніцы з Украінай;

9) Супольная праца з гэрманскімі окупацыйнымі уласьцямі, каб завесьці новы парадак і добрабыт краю.

**Тэлеграма Беларускаго Народнаго Комітэту у Мінску**, адбітая канцлеру, галоўнай камісіі Рэйхстага і окупацыйнай грамадзкай уласьці у Коўні.

Беларускі Народны Комітэт у Мінску, як нацыянальны надпартыйны орган Беларускаго народу, каторы дамагаецца палітычнаго, культурнаго і эканамічнаго адраджэння, просіць захаваць родны край ад ніспраўядліваго і шкадліваго разьдзелу. Гістарычныя і этнаграфічныя граніцы Беларусі сягаюць на усход да ракі Сожы, абнімаюць паўночную і заходнюю

далiну Дзьвiны, а на заходзi займаюць значную большасьць Гродзеншчыны i Вiленшчыны разам з гарадамi Беластокам i Берэсьцям. На поўднi—граніцы сходзяцца з граніцамi Гродзеншчыны i Міншчыны. Мы рашуча i станоуча протэстуем процi жадання суседнiх народаў разглядаць гэтыя землi, як безпанскiя. З радасьцю вiтаючы дзяржаўнае збліжэнне з нашымi лiтоўскiмi i балтыцкiмi суседзямi, мы цьверда протэстуем процi лiтоўскiх нiзаконных дамаганняў на Вiльню i вялiкую часьць Вiленшчыны i Гродзеншчыны. Гэтае пытанне можа быць аканчацельна разьвязана толькi на аснові узаемнай угоды.

Усе прэтэнзii палякоў на часьцi Вiленшчыны i Гродзеншчыны мы, безумоўна, адкiдаем, як безпраўныя захватныя дамаганнi. Мы просiм направiць палудзенную граніцу краю з Украiнаю згодна с палудзеннай гранiцай Гродзеншчыны i Міншчыны, каторая 600 гадоў станавiла старую гiстарычную дзяржаўную мяжу. Мы жадаем нiзалежнаго дзяржаўнаго iстнення i бачым спаўненне гэтаго толькi у апоры на заходную культуру i ее прэдстаўнiцу—Гэрманскую імпэрыю. Мы просiм абаранiць нашыя справядлiвыя дамаганнi i прызнаць нашых прэдстаўнiкоў дзеля перагавораў.

Падпiсалi: Р. Скiрмунт, Р. Земкевiч i П. Алексюк.

---

# Уселякiя весткi.

## Гранiчная лiнiя з Расiей.

Лiнiя, аб каторай гаворыцца у 3 артыкуле мiрнай умовы з Расiей i каторая паказвае заходную мяжу расiйскаго дзяржаўнаго панавання, iдзе мiж астравамi Даго i Вормс, а такжа мiж астравам Моон i узбярэжжам сушы; пасьля па лiнii слаба выгнутаго луку праз Рыжскую затоку даходзiць да сушы крыху на паўночным усходзi ад усьця лiфляндзкай ракi Аа. Йдзе уздоўж гэтаго луку, акружаючы Рыгу, i перарэзывае Дзьвiну на ўсходзi ад Огэра.

Далей граніца дзержыцца лiнii Дзьвiны ажно да ваколiцы на усходзi ад Дзьвiнска—да мейсца, дзе дагэтуль канчалася граніца Курляндзii i адтуль па даволi роўнай лiнii йдзе да палудзеннаго канца Дрысьвяцкаго возера, пакiдаючы мейсцовасьць Дрысьвяты на ўсходзi. Адгэтуль лiнiя робiць закрут на палудзенны заход i блiзка насярэдзiне перарэзывае чыгунку Сьвенцяны-Лынтупы. Вiдзы i Твэрэчъ астаюцца на ўсходзi ад яе.

Праходзячы далей мiма Мiхалiшок i Гервят, каторыя астаюцца на заходзi, пасьля чысьленых паваротаў, лiнiя даходзiць да чыгункi Вiльня—Смаргонь, каторую перарэзывае крыху на ўсходзi ад Слабодкi, а пасьля ізноў iдзе ў паўночна-заходнiм кiрунку па цячэннi рэк Ошты i Гавii да усьця iх у Нёман. Ошмяна i Дзевенiшкi астаюцца на ўсходзi ад лiнii, а Кладнiкi i Геранёны—на заходзi.

Далей па Нёманi йдзе лiнiя да пункту вышэй Мастоў i заварачываецца адгэтуль проста на палудзень да рэчкi Зэльвянкi, а пасьля ўздоўж яе да ваколiцы Рожаны, каторая астаецца на ўсходзi ад лiнii. Адгэтуль кiруецца на палудзенны заход ажно да украiнскай граніцы каля Пружан. Смаленiца i Добучын астаюцца на ўсходзi ад яе.

Падробна установiць граніцу спэцыяльная нямецка-расiйская камiссiя.

**«Гоман»**

## Курляндзкая рада.

«Kogr. В» паказывае з Мiтавы з 8 марца:

Курляндзкая Краевая Рада ў поўным складзе, апрыч аднаго члена, нiбытнасьць каторага была вытлумачана, на сягоняшнiм заседаннi сваiм а 4 гадз. папалуднi ўсемi галасамi пастанавiла:

1] Прасiць Яго Вялiчаство Iмператара i Караля, каб прыняў княжную мiтру Курляндзii.

2] Выказаць жаданне, каб Курляндзiя была як можна найцясьней зьвязана з нямецкай дзержавай на аснове конвэнцый у военных справах, мытных, справах зносiн, грашавых, мер i судоў.

3] Выказаць надзею, што ўвесь прыбалтыцкi край будзе злучан у адну дзержаўную органiзацыю у еднасьцi з Нямеччынай.

Гэтак сама прыняты усемi галасамi праект пасылкi тэлеграмы Iмператару з выражэннем пакорнасьцi i дэлегацыi ў Бэрлiн з 4 асоб дзеля падачы канцлеру гэтай пастановы.

**Шчырае прызнанне.** «Мы ўжо адзначывалi,пiша «Гоман» што Цэнтр Комiтэт дзеля помачы ахвярам вайны, каторы памешчаецца у Швэйцарыi (у Vevey) прысылаў у Вiльню сыстэматычна вялiкiя суммы грошы дзеля помачы ў роўнай меры насяленню польскаму, лiтоўскаму i беларускаму. Гэткiх грошы да марца месяца 1917 году было прыслано без мала 900,000 м., а цяпер сумма гэта напэўна штат вышэйша за мiльён. На жаль, нi гледзячы на офiцыяльныя польскiя публiкацыi аб «роўнай» помачы палякам, лiтвiном i беларусам, вiленскiя палякi, на рукi каторых паступалi памянёныя суммы, да леташняго марца выдзялiлi для беларусаў усяго адну сотную частку, дый то нi заўсёды з добрай волi... Але ад лета мiнулаго году i гэтая нiкчэмная «помач» беларусам была спынена, а Беларускаму Камiтэту заўлено, што для яго грошы нi прысылаюцца.

Гэтымi днямi да Польскаго Комiтэту зьвярнулась упаўнамочаная Беларускаго комiтэту, п. Ф. Малiноўская, с просьбай аказаць помач 300 беларускiм высяленцам с фронту, каторыя церпяць страшэнную бяду, жывучы ў ваколiцах Даўг. На гэта ей у Польскiм Комiтэцi было заўлено офiцыяльна, што беларусам Польскi Камiтэт нi памагае, а грошы мае толькi для палякоў.

Трэба Польскаму Комiтэту падзякаваць за шчырасьць: цяпер прынамсi ясна для ўсiх, што значаць польскiя публiкацыi аб «помачы ў роўнай меры насяленню польскаму, лiтоўскаму i беларускаму.»

---

Рэдактар Я. Лёсiк.



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.